


**Горад Наваполацк – месца прэзэнтацыі нашай газэткі. А адбылося гэта ў верасьні...**

NAVAPOLACK 2000

### Дзень першы.

Вось мы едзем у далёкі Наваполацк. Па радыё гучаць мэлёдыі, праносяцца дарожныя знакі. Аўтобус, як заўсёды, кланяецца кожнаму слупу. Чатыры гадзіны дарогі- і нарэшце аўтобус "Браслаў-Наваполацк" усё ж такі прыбывае на месца. Фу, вось мы і прыехалі, удыхнулі поўныя грудзі сьвежанькага Наваполацкага паветра і пайшлі абедаць.

Трохі пад'еўшы, мы ўжо не такія зморанья і стомленыя пайшлі за ведамі журналістыкі. Толькі мы пасьпелі зайсьці, як адна пані з Польшчы нам кажа, што нібы да нас прыехаў нейкі важны віньцік з Амэрыкі і дасьць мільён даляраў таму, хто лепш расплянуе сваю газэтку. Мы, падзяліўшыся на суполкі, пачалі працаваць. На працягу дзьвух гадзін усе намагаліся нешта напісаць, намаляваць, растлумачыць. У рэшце-рэшт узнагароду атрымала газэта пад назвай "МЫ". Потым задаволеныя вынікамі ўдзельнікі папляліся на вячэру. Добра павячэраўшы, кожны мог папіць піва з чыпсамі і паслухаць файнага барда Алена і фальклорны гурт "Княжыч".

### Дзень другі.

Прыстасаваўшыся да новага мейсца, мы з новымі сіламі пакрочылі на лекцыі пана Юрка Юрэцкага слухаць гісторыю з чаго пачынала газэта "Tygodnik Podhalanski". Па абедзе была вельмі цікавая для нас лекцыя "Плюсы і мінусы рэгістрацыі". Пасьля невялікага перапынку, мы самі маглі паспрабаваць зрабіць макет газэты.

### Дзень апошні. Трэці.

Апошні раз мы выходзілі з нашага, ужо палюбіўшагася нам нумара гасьцёўні і ішлі на заняткі даведавацца аб правах журналіста. З панам Вецлавам Вецлавчыкам у нас была вельмі цікавая дыскусія на гэту тэму.

Пасьля гэтага мы ўсе пайшлі на апошні, вельмі смачны абед. Пад час абеду ўсе размаўлялі аб прыемных хвілінах побыту на семінары.

"Так нядаўна мы спаткаліся, а ўжо час развітацца..." Усе з нейкім смуткам на душы пачалі зьбірацца дахаты, запрашаць адзін аднаго ў госьці, браць адрэсы.Ну, вось і ўсё. Развіталіся і хуткімі крокамі пайшлі на аўтобус. Селі і паехалі гледзячы праз крыштальна-чыстыя шыбы на пакінуты намі Наваполацк.

P.S. А ўвогуле, нядрэнная тусоўка атрымалася.

Ганка

## Пралёг літаратурны (статыстычна-практычны).

Дабы ізбяжаць шэрагу пытаньняў і тэлефонных званкоў па поваду (а часам і без яго) невялікага зьмяненьня стылю нашай газэткі, адзін чалавек вырашыў узяць інтэрвью ў аднаго з нашых журналістаў.

Ч: Чаму вы вырашылі крыху памяняць стыль вашага выдання?

Ж.: Ну... Я, як чалавек ўсезнаюшчый, атвячаю вам. Нам надаела пісаць на каком-то калхозным языке. Вот. Вапшчэ, заяўляю вам прама, члены (не пабаюсь гэтага слова) нашай рэдкалегіі- сурьёзныя людзі, а не какіе-небудь кловуны. Вот. І пэатаму мы большэ не намераны публікаваць нашы навучныя артыкулы на несурьёзнам языке.Усё!! Цвятоў ня трэба. Аўтографы пасля..Выключыце быстрэй пажалуста дзіктафон!.



# СКАЎЦКІ ЛЕТНІК "ВІЛЕЙКА 2000"

Некаторым скаўцікам са скаўцкага зьвязу "Сінія воды", што ў вёсцы Пагошча, пашанцавала засьвяціцца ў вельмі цікавым летніку, які праводзіўся ў жніўні каля Вілейкі.

Спецыяльна для нашай газэткі пішуць свае ўражаньні ўдзельнікі летніка.

З мінулай восені ў нашай школе дзейнічае скаўцкая арганізацыя. Таму на жнівень мы атрымалі запрашэньне стаць удзельнікамі летніка "Вілейка-2000". Хто стане тымі самымі удзельнікамі вырашаў агульны сход нашай суполкі. Трапіць у лік шчасьліўчыкаў давялося і мне. Непрыкметна прайшла дарога і вось мы ўжо на беразе Вілейскага мора (якое, канешне не параўнальна з Браслаўскім акіянам), у цудоўным сасновым бары (які таксама, вядома нельга параўноўваць з дзікай прыродай Браслаўшчыны). Акрамя нас туды яшчэ сабраліся скаўты з Менску, Оршы, Барысава, Крупак, Маладзечна, Магілёва. Запамінальнай была атмасфера летніка – вельмі сяброўская і дабразычлівая. Найлепшы доказ нашага закона – "Скаўт-скаўту брат!"

*Вашкевіч Алёна.*

Скаўт шмат павінен ведаць і шмат чаго ўмець, таму падчас летніка праводзіліся розныя заняткі. Мы зьбіраліся ў кола або дзяліліся на групы. Кіраўнікі з заўзятасьцю перадавалі свае веды, а мы слухалі з захапленьнем. Хачу сказаць, што многае з таго, што казалі нам старэйшыя, спатрэбілася ў будучым жыцьці.

Мы гулялі ў розныя гульні на ўважлівасьць і кемлівасьць. Мы хадзілі ланцужком па лесе з завязанымі вачыма ды адчувалі перад сабой надзейную апору – свайго сябра. Потым, таксама з завязанымі вачыма, ішлі па вяроўцы, нацягнутай паміж дрэў. Тут мы мусілі спадзявацца толькі на сябе. Займаліся арыентаваньнем, вызначэньнем азімуту. Было так цікава, што вельмі не хацелася дахаты.

*Шапалоўская Алена.*

На мой погляд самай хвалюючай падзеяй стала скаўцкае прырачэньне. Нас доўга рыхтавалі, а мы старанна вучылі тэксты клятваў і законаў скаўтаў. І вось прыйшоў вечар. Нас сабралі ля варот летніка, а скаўты распалілі свaё вогнішча паводаль, у лесе. Не буду надта палрабязна апісваць усё – няхай гэта будзе нашым скаўцкім сакрэтам. Але усё ж самае яркае ўражаньне пакінуў пошук скаўцкага вогнішча. Адны ў цёмным начным лесе і да таго ж без ліхтарыка. Наогул, у скаўцкім прырачэньні кожная дзея глыбока сімвалічная. Гэтыя блуканьні ў лесе – сімвал цяжкага шляху да самаўдасканаленьня. У вогнішча кідаюцца вугольчыкі з мінулага летніка, як знак яднаньня з папярэднікамі і г.д.

*Бута Аўгіньня.*

Сьцеражыся !!!



У праграме летніка была невялікая вандроўка, пад час якой мы наведалі магілу аднаго з першых скаўтаў Вілейкі, нядаўна трагічна загінуўшага па віне нецьвярозага вадзіцеля. Пад час экскурсіі па мясцовым музеі, яго загадчыца, даведаўшыся, што мы з Браслава, сказала, што вельмі высока ставіць браслаўскі музей і прасіла перадаць самыя шчырыя прывітаньні, што зараз і хачу зрабіць праз вашу газэтку. Самай яркай падзеяй, на мой погляд, стала знаёмства з мясцовай шпаной. Некалькім мясцовым "рэмба" не спадабалася, што іх не пусьцілі ў лагер. Дык яны вырашылі паказаць сваю "круцізну", зрабіўшы набег на лягер ноччу. Па трывозе на ногі ўзьняліся ўсе, і ўжо праз колькі хвілін дваіх адлавілі ды прывялі да начальства. Астатніх злавілі пазьней. Трымалі іх да прыезду міліцыі, якая ў суботні ранак яшчэ салодка спала. Зрэшты, гэтыя "безабразьнікі" атрымылі па 5 сутак.(Падрабязнасьці па тэлефоне).

*Яхімовіч Славік.*

# АРШАНСКІЯ ПРЫГОДЫ *аван*ТУРЫСТАЎ.

## Пралёг.

Ці ведаеце вы Оршу ?

А-а, ведаеце – яна на Віцебшчыне, так сказаць родная вобласьць? А тое, што да яе ад Браслава як да Слуцка -- 320 км.,ніхто не задумваўся? І мы таксама ( гы-гы-гы-істэрычны сьмех). У скаўцкім лягеры " Вілейка-2000" было крута-так абавязкова кінуць:"А ты едзеш на сьвята Аршансакае перамогі?". З Вілейкі мы і прывезьлі гэтую шалёную ідэю – паехаць у Оршу.

## Частка першая. Зборы.

Вырвацца на 2-3 дні з хаты, адчуць сваю дарослась і крутасьць, захацелася даволі многім, але 6 тысяч расходаў і дзіцячы ўзрост ( на думку бацькоў) рэзка скарацiў колькасьць ахвотнікаў да 2-х: аўтара гэтых радкоў і Шурыка- відзаўскага фобзайца з тварам "малечы з каробкі дзіцячага харчаваньня" і ростам 1,80 м. Наш скаўцкі куратар Лукумыч (псеўданім) зрабіў страшныя вочы, абяцаў Шурыку абламаць усё, што можна (але ў гэтым не было неабходнасьці), калі з яго чароўнай спадарожніцай (гэта мной) што-небудзь здарыцца. А яшчэ даў па плечаку са спальнікамі і з намётам, адарваў ад сэрца 2 банкі "填Кількі ў тамаце" (хоць у яго было больш за 30) і разам з доўгімі і нуднымі інструкцыямі па харчаваньню, праводзіў нас за парог. А мне яшчэ сказаў, што дастанецца, калі "карабэшны" Шурык пахудзее хоць на грам. Мне і зараз здаецца, што гэта было б яму толькі на карысьць (у пэўных межах, вядома ж).

## Частка другая. У шлях.

Сёньня 8-га верасьня, пятніца. Сьвята, шчыра кажучы, сёньня, а сьвяткаваць будуць заўтра. Мы з Шурыкам на прыпынку. Праважаюць нас мае сястрычкі і Лукумыч. У яго сумныя, заклапочаныя вочы – турбуецца мусіць. Так яму, ня хоча ехаць сам, няхай хвалюецца. Да Браслава ехалі так: я са сваімі думкамі, а мой спадарожнік, размаўляючы з сябрамі. Прыехаўшы на месца, купілі білеты да Міёр. Залезьлі ў аўтобус і "айда"! Месцаў, вядома, не было. Якія месцы? Не было куды нагу паставіць, акрамя чыйсьці сумкі!

Набыўшы білеты на Віцебск, мы , амаль у хуткім часе, селі на цягнік. Лёгка павячэраўшы, растоўчаным у аўтобусе гарбузом, леглі спаць. Стук колаў і лёгкае пагойдваньне спрыяе, дарэчы, засыпаньню, але не суседзі – усю ноч калыханку сьпявалі, ды так, што заснулі мы ня скора. Дзесьці каля 6 гадзін раніцы нашы заспаныя тварыкі зьявіліся на вакзале. Адмецілі прыезд булачкай ды з гарбатай. Затым зьездзілі ў госьці да Шурыкавага брата. Прыемна пагасьціўшы, адправіліся ў Оршу на дызелі.

## Частка трэцяя. Орша.

Горад сустрэў нас сваімі маркотным вакзалам. Трохі паблукаўшы вакол яго, мы, нарэшце, знайшлі, што трэба – аўтобусны прыпынак. Мы былі першымі. Потым зьявіліся "таварышы па няшчасьцю" з Віцебска. Прыемна было сустрэць сяброў з Вілейскага лагера. Затым ужо пачаў зьяжджацца народ. Людзей набралося так многа, што мы з цяжкасьцю ўлезьлі ў два аўтобусы. Шлях да Гацькаўшчыны (так называлася вёска, дзе адбывалася сьвята) дужа нагадаваў шлях да Міёр.

(Працяг будзе)

**А.Шапалоўская ...**

Скаўцкі зьвяз "Сінія воды" (в.Пагошча)




**Не кідайце словаў на вецер,**
**калі ён дзьме не ў той бок...**

# Мы-ёсьць!!!

**Быле лета. Ліпень… Мне заўсёды здавалася, штэ ў ліпені павінна быць горача й сонечна, але я памылялася…Дзень гэты выдаўся шэры, змрочны. Марасіў дождж…**

**Да аднаго з тых шапікаў, дзе можна знайсьці ўсё-ад гумкі да парасона, падышоў мужчына. Ён нешта купляў і пры гэтым сказаў “калі ласка” і “дзякуй”. Ма-ладая дзяўчына, гандлярка таго самага шапіку, пагля-дзела на яго зь такім непадробным зьдзіўленьнем, нібы перад ёй стаяў Рыкі Марцін у міні-спадніцы, і, уражанная пачутым, спытала:” Вы беларус ?”**

**…Гэта здарылася не ў Літве, не ў Чэхіі, і нават не ў Расеі … <u>Гэта было ў Беларусі</u>… Я лічыла, штэ ў Беларусі павінны жыць Беларусы. І гэта не павінна нікога зьдзіўляць! Але…я памылялася?!…**

**Можа я чагосьці не разумею, але мне цікава: хто жыве <u>ТУТ</u>, калі не беларусы? І дзе тады беларусы? Дзе іх шукаць? Можа, яны, беларусы, вымерлі, як дыназаў-ры? Ня выпрывалі… А мо іх перабілі іншапланетныя адмарозкі з мэтай дазнаньня сакрэту прыгатаваньня спрадвеч-на-беларускай стравы са змястоўнай назвай “драчонікі”?**

**А мо беларусы аказаліся вельмі адчувальны-мі да экалягічных забруджваньняў і пад узьдзеянь-нем радыяцыі муціравалі ў “<u>РУСАБЕЛАРУСАЎ</u>”, якія ну хоць забі,” за цывілізаваным сьветам ня пойдуць ?”…**

**А можа… Можа кожны з нас хоць крышачку ў душы беларус? Толькі ня хоча ўсьвядоміць гэтага, бо прасьцей быць як усе-“русабелам”…**

**Давай размаўляць на <u>СВАЁЙ</u> мове!**

**З Адраджэньня Мовы пачнецца Адраджэньне Нацыі.**

**Давай дакажам усім, штэ мы не дыназаўры,не “русабелы” !**

**<u>МЫ- БЕЛАРУСЫ! МЫ-ЁСЬЦЫ!</u>**

*Воля.*



## Часовая “перадышка”.

ЮЛЬКА з Воршы! Віньшуем! Жадаем табе ўсяго найлепшага і няхай тваю вуліцу “60 лет БССР” перайнакчаць у “82 гады БНР.”
Твае сябры з Браслава і ня толькі…

Усім, хто нарадзіўся ў верасьні ці кастрычніку самыя шчырыя прывітаньні ды віньшаваньні з Браслава! Не сумуйце! Усьміхайцеся!
Мы…

**УВАГА! Па адрэсу вул. Піўная, хата бяз даху адчыняецца фан-клюб “НІРВАНУШКІ INTERNATIONAL”.**

Гэта мы!

Гэта мы!

Гэта мы!

Гэта мы!

**УСІМ выкарыстальнічыкам Сеткі! З нагоды прыезду ў Браслаў главы “MICROSOFT” Біла Гейдса інтэрНЕТ перайнакчваецца на інтэрДА !**

Над нумарам шчыравалі МЫ : Ганка, Воля, НАДЗЕЙКА, дзядзя Саша, Алены, Аўгіньня, Славік. У сувязі з адсутнасьцю месца для працы МЫ бадзяемся па вуліцах, але набыць кантакты з намі вы можаце на калідорах навучальных установ Браслава. Наклад 299, 99999999 …

За дакладнасьць інфармацыі адказнасьць нясем у торбе, якую згубілі на мінулым тыдні.